# Ня трэба нам багоў!

Надыходзіць вялікдзень. Як рыхтуюцца да гэтага сьвята школы, што робяць яны для таго, каб адцягнуць вучнёўскую масу ад рэлігійных забабонаў, што ўвогуле робіцца па школах у сэнсе антырэлігійнага выхаваньня?

Каб абмеркаваць гэтыя пытаньні, Менакрана разам з Акрбюро Ю. П. склікала гэтымі днямі агульна-гарадзкую вучнёўскую конфэрэнцыю, дзе ставіліся такія даклады: 1) Аб пахаджэньні зямлі і 2) Аб антырэлігійнай рабоце школ.

Першы даклад зрабіў адзін настаўнік. Ён расказаў нам аб тым, што рэлігійныя казкі аб стварэньні зямлі богам за 7 дзён ёсьць выдумка багатых людзей і духавенства. Дакладчыку давалі шмат пытаньняў. Даклад усім спадабаўся і прынёс карысьць.

Па другім пытаньні выявілася вялікая актыўнасьць з боку прысутных. Вось што казалі вучні, якія выступалі ў спрэчках.

*Пагоцкі* (6-я школа): некаторыя вучні нашай школы яшчэ моцна вераць у бога. Да гэтага іх прымушаюць бацькі. Калі мы стварылі гурток бязбожнікаў, дык гэтыя вучні зрывалі нам заняткі. За апошні час мы сваю антырэлігійную работу пачалі пашыраць ня толькі сярод вучняў, але і іх бацькоў; наладжваем на сходах бацькоў гутаркі аб сутнасьці рэлігіі і пахаджэньні бога.

Вучань 2-й школы, *Сьляпян*, гаворыць пра уплыў на некаторых вучняў розных эвангелістых і іншых сэктантаў. Быў выпадак, калі вучань 2-й школы ўцёк з школьнага вечара, заявіўшы, што йдзе на заняткі дзіцячага гуртка да эвангелістых. Ня глядзячы на такія выпадкі, гурткоў бязбожнікаў у нас няма, грошай на антырэлігійную работу школы не адпускаюць.

Са слоў вучня Чыгуначнай 9-годкі, Пілюка, відаць, што там існуе гурток бязбожнікаў, але ў яго ўваходзяць толькі вучні старэйшых клясаў. А праводзіць антырэлігійную работу трэба і сярод малодшых вучняў гэтай школы, бо некаторыя з іх кажуць: ня пойдзем у піонэры, нам трэба слухацца бацькоў і сьвяткаваць вялікдзень.

### ПРЭЧ ПАПОЎ!

**— Годзе жыць папом на сьвеце,**  
**Нам абрыдзеў іх смурод!**  
**Хай загіне ўсё папоўства,**  
**Хай загіне бог і чорт!**

**У трыццаць першай нашай школе**  
**Гэтак кажа маладняк.**  
**Ён рыхтуецца да бойкі**  
**Дружна, ўпарта так штодня.**

**Дык сьмялей шагайце, хлопцы,**  
**Перамогі блізка час.**  
**Падмацуйце толькі веды,**  
**Каб папы ня зьбілі вас.**

**Сьмелым крокам, шчыльным радам,**  
**Марш уперад—на папоў!**  
**Дакажаце ўсяму сьвету,**  
**Што навука—сьмерць багом!**

**Вучань.**

---

Добра працуе гурток бязбожнікаў пры фабрычна-завадзкой 7-годцы. Вось вынік работы гуртка: *усе вучні—палякі—у часе каталіцкага вялікадня як адзін прышлі ў школу на заняткі.*

Зусім слушна зазначыў вучань 10-й школы, Розенбэрг, аб тым, што ў школах не праводзіцца сыстэматычная антырэлігійная работа, калі ня лічыць гутарак у час кампаніяў. А ў выніку ў 10-ай школе ёсьць нямала вучняў, якія адмаўляюцца ў суботу пісаць, вучыцца і нават прыходзіць на лекцыі. Такія-ж выпадкі з яўрэйскімі вучнямі былі таксама ў 5, 7 і 18-ай школах, дзе няма гурткоў бязбожнікаў і дзе не праводзіцца антырэлігійная работа.

Дэлегаты з польскіх сямігодак скардзяцца на тое, што іх набожныя бацькі не дазваляюць вучням стаць піонэрамі, наведваць заняткі антырэлігійных гурткоў, пасылаюць іх у касьцёл.

У некаторых школах рэлігійных вучняў караюць, што практыкаваць ня трэба. Так, у 17-й школе выключылі з школы 2-х вучняў за тое, што яны не хацелі ў суботу прыходзіць на заняткі. У першую чаргу, трэба старацца перавыхаваць такіх вучняў.

### Конфэрэнцыя ўхваліла.

1) Ажывіць работу гурткоў бязбожнікаў, організаваць гурткі там, дзе ім яшчэ няма, уцягнуць у гурткі ўсіх вучняў.

2) З рэлігійнымі вучнямі праводзіць сыстэматычную выхаваўчую працу, дапамагаць ім вызваліцца ад рэлігійных забабонаў.

3) Дамагчыся таго, каб наведваньне вучнямі школ у час рэлігійных сьвят было поўнае.

4) У часе рэлігійных вялікодных вечароў організоўваць колектыўныя наведваньні кіно і тэатру.

5) Праводзіць сталую працу сярод бацькоў вучняў, дамагацца таго, каб яны не прымушалі сваіх дзяцей трымацца рэлігіі.

6) У школьных насьценгазэтах высьвятляць пытаньні антырэлігійнай работы.

7) Кожнай школе набыць бібліятэчкі антырэлігійнай літаратуры.

8) Наладзіць сувязь між гурткамі бязбожнікаў пры школах розных нацыянальнасьцяй, каб магчы абменьвацца практыкай работы.

**Дэлегат.**

## РЫХТУЕМ БЯЗБОЖНІКАЎ.

У пачатку гэтага году наш гурток „Бязбожнікаў“ амаль зусім не працаваў. Зараз праца значна палепшылася. На занятках гуртка робім даклады на тэмы аб пахаджэньні зямлі, сонца і другіх плянэт, як зьявіліся расьліны і жывёлы на зямлі.

Гэта вельмі зацікавіла вучняў, яны пачалі акуратна наведваць заняткі гуртка і прымаць актыўны ўдзел у працы. Праводзяцца антырэлігійныя вечары. За кароткі час мы ўцягнулі шмат новых членаў у свой гурток.

**В. Мэбэль.**

Барысаў, 3-я школа.

---

### Зьмест.



Друкарня БДВ. Заказ № 2384. У ліку 2250. Галоўлітбел № 1372.

*Год выданьня 5-ты.*

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!



# Беларускі Піонэр

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы — р. 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

**№ 8** — **КРАСАВІК** — **1929 г.**




## ЛЕНІНА-МАЙСКАЕ.

Май шапоча сьцягамі-лісьцем
Аб краіне квяцістай і вольнай...
Нёман гойсае, нібы ў калысцы,
І таксама пяе аб раздольлі...

А тут... паміж хваляў маёвых
Я на Леніна помнік гляджу...
Мне здаецца, вось-вось скажа слозы
Шматмільённай сваёй грамадзе...

Ён жыве—адгалосам няслося—
Будзе жыць сонцавеючым Маем.
Бо Май і Кастрычнік увосень
Памяць вечна аб ім узгадваюць.

Май—басаногі хлопчык Валодзя,
Слухае песьні Волгі шырокай,
Май—Ленін на дымным заводзе,
На трыбуне з прыжмураным вокам.

М. Чарот.

# ДЗЕЦІ РАБОЧЫХ,



## ТУТ ЖЫВЕ ШТРЭЙКБРЭХЭР.

Восьмы дзень ня йдзе бацька 13-гадовага Ганса Шлёсберга на працу ў порт. І Фрыцаў бацька, і Карлаў бацька, і брат маленькай Розы таксама сядзяць дома. І яшчэ многа, многа докераў[1]) сядзяць дома, у халодных і галодных кватэрах рабочага Бамбэка[2]). Яны абвясьцілі забастоўку. Гаспадары плацяць ім мізэрныя грошы, такія мізэрныя, што бацька Ганса ўжо вось паўгода як ня можа купіць сыну новых бацінак, і Ганс часта прапускае школу. Докеры патрабуюць надбаўкі. Яны ўпартыя, але гаспадары таксама не саступаюць. У бацькі няма ў кішэні ніводнага пфэнігу—і Гансу, і яго сябром няма за што купіць булкі ў старога Германа. Праўда, сябрук Ганса, Чарлі Бэнгс, прыходзіць у школу са сьнеданьнем. Хай сабе душыцца! Яго бацька штрэйкбрэхэр[3]). Ганс больш не сябруе з Чарлі. Сёньня ў школе ён прагнаў яго з парты... хіба можна сядзець поплеч з сынам здрадніка?

...А як сёньня было бурна ў школе. Піонэры склікалі сход. Парашылі памагчы дзецям забастоўшчыкаў. Дзеля гэтага склалі вялікі сьпіс, у які запісалі і Ганса. Парашылі яшчэ дамагацца, каб дзецям забастоўшчыкаў выдавалі харчы тры разы на дзень, а таксама цёплае адзеньне.

Ганс узяў слова:

— Мая матка казала, што ў 1923 годзе, калі было паўстаньне, ня ўсе рабочыя далучыліся да забастоўшчыкаў... дык жанчыны пайшлі ў тунэль і ня пусьцілі докераў на верфі... А мы можам таксама перашкаджаць штрэйкбрэхэрам і на іх дамох крэйдай напісаць, хто яны такія...

І Ганс ня толькі гаварыў. Увечары ён з Фрыцам падкраліся да дому Чарлі Бэнгса. У глыбіні вуліцы нікога ня было відаць. Тады яны вялізнымі літарамі намалявалі на дзьвярах тры словы: **„Тут жыве штрэйкбрэхэр“**.

Але назаўтра Чарлі прыбег у школу радасны і шчасьлівы.

— Ганс!—крыкнуў ён.—Карл! Таварышы! Цяпер можаце сядзець са мной на аднэй парце! Мой бацька не пашоў сёньня на работу... ён больш не штрэйкбрэхэр.

## ПІКЕТЧЫК МАДЫЭРАС.

У адным з рабочых цэнтраў Паўночнай Амэрыкі рабочыя абвясьцілі забастоўку. Іх дзеці—піонэры, актыўна памагалі бацькам.

На вуліцы стаяў пікет з маленькіх хлапцоў. Нечакана з-за вугла наляцела конная паліцыя. Хлопцы кінуліся хто куды. Але адзін з іх—італьянец Мадыэрас, апынiўся пад самай мызай каня... Жах сьціснуў маленькае сэрца Мадыэраса. Куды бегчы? Што?.. Сьняжынка пены ўпала яму на шчаку. Мадыэрас ірвануўся наперад—да ракі. Вось яна. Няўжо ў ваду?..

...Хлопчык нурцануў у халодныя хвалі. Паліцэйскія на беразе бачылі гэта і нічога не зрабілі, каб выратаваць дванаццацігадовага пікетчыка. Мадыэрас утапіўся. Сябры бацькі—забастоўшчыкі, хацелі наладзіць масавае пахаваньне загінуўшага піонэра. Паліцыя пачала сьпешна „рыхтавацца“ да гэтага пахаваньня.

Але, ня гледзячы на ўсе стараньні паліцыі, народу сабралася надта многа. Тады паліцыя ўзяла другія меры. Сотня ўзброеных паліцэйскіх і салдат напала на працэсію каля царквы Санта Крыста і прыкладамі і шашкамі разагналі натоўп... Але рабочыя пасьпелі абсыпаць труну Мадыэраса чырвонымі кветкамі.

Таварышы Мадыэраса ніколі не забудуцца таго, як загінуў іх адважны сябра.

## „АРЫШТУЙЦЕ НАС УСІХ“.

**„Дзеці рабочых, школьнікі!**

„Цяпер хочуць пабудаваць броняносец. Гэтыя броняносцы будуць накіраваны супроць Савецкага Саюзу. На якія грошы будуць будаваць броняносец? На грошы ад падаткаў, якія будуць плаціць вашы бацькі. Броняносец адбірае ў вас хлеб. Шмат хто з вас не палуднуе... Мы хочам, каб усе дзеці рабочых атрымлівалі ў школе дармовыя абеды. На грошы, якія хочуць патраціць на броняносец, маглі-б 4½ мільёны дзяцей атрымліваць дармовыя абеды ў школах. На гэтыя грошы можна пабудаваць многа дзіцячых пляцовак і санаторыяў.

Паклапацецеся, каб вашыя бацькі галасавалі супроць пабудовы броняносца“.

Такія адозвы выдаў нямецкі саюз юных спартакаўцаў (так называюцца там піонэры). Юныя спартакаўцы самі раскідвалі і расклейвалі гэтыя адозвы на вуліцах Бэрліну.

Альфонс і Гэрта, дзеці бэрлінскага мэталістага, з групай таварышоў цэлы дзень хадзілі па горадзе з плякатамі і лістоўкамі. У гадзіны 2 дня яны праходзілі па рынку і крычалі хорам:

**— Про-ле-та-ры-і, вы-ходзь-це га-ла-са-ваць су-проць па-бу-до-вы бро-ня-нос-ца!**

Раптам насустрэч піонэрам выскачыў паліцэйскі.

— Зараз-жа разыйсьцёся!—загадаў ён.

Група стаяла пасярод вуліцы, навакол ляцелі аўто, мотоцыклы і трамваі. Адразу разыйсьціся ня было ніякай магчымасьці.

— Мы дойдзем да тратуару і там разыйдземся,—сказаў Альфонс.

---

[1]) Докер—партавы рабочы. Тут гаворыцца аб докерах нямецкага гораду Гамбургу.

[2]) Бамбэк—рабочы квартал у Гамбурзе.

[3]) Штрэйкбрэхэрам называюць рабочага, які працуе ў часе забастоўкі і гэтым самым зрывае забастоўку.

# СЬМЕЛА ЗА НАМІ!



— Цябе, мой мілы, я ўжо недзе бачыў,—ціха прамармытаў паліцэйскі і яго рука апусьцілася на пляча Альфонса,—а ну, пойдзем са мною!

Паліцэйскі павёў Альфонса ў вучастак, і ўся група пашла сьледам... Перад будынкам вучастку піонэры спыніліся і закрычалі зноў хорам: **„Мы не дазволім, каб арыштоўвалі аднаго нашага таварыша. Арыштуйце нас усіх“.**

Тады вышаў паліцэйскі і арыштаваў таксама Гэрту. А між тым каля вучастку зьбіралася ўсё больш і больш рабочай дзетвары, ня гледзячы на тое, што паліцэйскія некалькі разоў выходзілі і нават білі некаторых дзяцей. Падыходзілі таксама дарослыя рабочыя, і піонэры расказвалі ім аб арышце 2-х дзяцей. Адна з піонэрак сабрала вакол сябе абураных рабочых і сказала такую энэргічную прамову, што паліцэйскія не асьмеліліся да яе дакрануцца. Невядома, што было-б далей, калі-б дзьверы вучастку, нарэшце, не адчыніліся і адтуль ня выбеглі Альфонс і Гэрта.

## НАШ ЛЕНІН!

У буржуазнай Чэха-Славакіі з кожных 7-мі дзяцей да аднаго году адзін памірае. Але тым, хто застаецца жыць, выпадае цяжкая доля. Нядаўна нам прыслала ліст адна чэха-славацкая дзяўчынка. Слухайце: „Мае бацькі працуюць на красільнай фабрыцы. Нам прыходзіцца быць увесь дзень адным. Пасьля заняткаў у школе нам прыходзіцца праводзіць увесь час на вуліцы, і таму ўзімку, калі вельмі холадна (а ў нас-жа няма цёплай вопраткі), мы часта прастуджваемся. Калі мы хварэем, дык ляжым адны ў халодным пакоі,—матка ня можа аставацца з намі дома. У школе таксама ня лепей. Заўсёды прыходзіцца вучыць вельмі многа вурокаў, а як тут пасьпець, калі ўвесь вечар бацька прымушаў памагчы яму. Настаўнік гуляе па клясе і б'е нас палкай ці лінейкай. Калі мы кашляем, начальніца гаворыць, што мы павінны сядзець дома. Яна не разумее, што дома нам сядзець нельга, бо бацькі на працы, а паляць у печы толькі тады, калі ўсе дома, каб ня йшло многа дроў... У час канікул мы не маглі паправіцца, гэта толькі багатыя могуць езьдзіць на дачы, а нам прыходзіцца ісьці на работу“.

Піонэры Чэха-Славакіі змагаюцца за тое, каб дзецям рабочых лепей жылося. Нядаўна, у студзені гэтага году, яны сабраліся ў горадзе Празе на нелегальны зьезд, які правялі за горадам, далёка ад вачэй паліцыі. Адзін піонэр расказваў, як ён з таварышамі ў час выбараў наклеіў комуністычны плякат на дзьвярах царквы і поп казаў, што гэта д'ябал прынёс. Другі апавядаў, як начальніца школы зьдзекуецца з піонэраў і прымушае іх мыць уборныя. Трэці з вёскі гаварыў, як зьдзекуюцца кулакі з батрацкіх дзяцей. І яшчэ адзін за другім выступалі дэлегаты.

На зьезьдзе піонэры Чэха-Славакіі вызначылі плян далейшага змаганьня; а як скончылі працу—ня вытрымалі, забыліся, што іх можа пачуць паліцыя, і зацягнулі любімую песьню, сэнс якой наступны:

„Каб уся зямля была вольная і кожны быў вясёлы і шчасьлівы, гэтага хочам мы, маладыя змагары за пролетарскую справу. Няхай жыве пролетарыят! Няхай жыве Ленін!“

Паліцыя на гэты раз не знайшла маленькіх рэволюцыянэраў.

* * *

Усё гэта—кавалачкі з жыцьця сусьветнай піонэрскай сям'і. Ад Жоўтага мора да халоднай Аляскі, у 25-ці краінах земнай кулі ёсьць піонэры. 125 000 піонэраў у Кітаі, 1500—у Манголіі, 2500—у Польшчы, 9000—у Нямеччыне, 2000—у Ангельшчыне... не пералічыш усіх!

На заводах, на палёх усяго сьвету працуюць мільёны дзяцей рабочых і сялян. Буржуі купляюць дзіцячую сілу за мізэрныя капейкі.

Калі надыходзіць гарачае лета, нашы піонэры ў большасьці едуць у лягэры, каб там адпачыць. Зусім ня так у дзяцей рабочых за граніцай.

Там яны масамі ідуць на заработкі да памешчыкаў, капаць картофлю, жаць і інш.

Палка і лаянка — звычайная зьява ў школах за граніцай. У сярэднюю школу папасьці дзецям рабочых і сялян вельмі цяжка: за навучаньне трэба плаціць вялікія грошы. Але дзеці змагаюцца за лепшую будучыню.

Адважна і радасна ідуць яны разам з бацькамі ў вялікай барацьбе за вызваленьне працоўных. Над іх галовамі сёньня лунаюць чырвоныя першамайскія сьцягі.

**Міхась.**



# ВЯЛІКДЗЕНЬ—СЬВЯТА НАШЫХ ВОРАГАЎ.

У гэтым годзе рэвалюцыйнае сьвята Першага Мая і рэлігійнае сьвята „вял кдзень“ бадай што прыпадаюць на адзін час. Якраз у так званы „страсны тыдзень“, калі папы будуць успамінаць хрыста расьпятага, у паветры будуць горда гучэць пераможныя словы пролетарскага гімну: „Ніхто ня дасьць нам вызваленьня: ні цар, ні бог і ні гэрой“. Сьвята Першага Мая, сьвята барацьбы і



*Пасьціў сем тыдняў і прычасьціўся.*

перамагі працоўных. Рэлігійнае сьвята „вялікдзень“ пераносіць нас у другі сьвет, дзе быццам няма барацьбы між багатымі і беднымі. З году ў год багатыя, пры дапамозе богавых служкаў, туманяць пачуцьці і думкі працоўных, з году ў год служакі розных рэлігій укараняюць у галовы працоўных тую думку, што па прыкладу хрыста, якога ніколі й ня было, трэба пакутаваць і цярпець, любіць сваіх ворагаў, каб атрымаць узнагароду на небе.

Яшчэ задоўга да „вялікадня“ царква рыхтуецца к гэтаму сьвяту. Яна патрабуе, каб кожны веруючы пасьціў сем тыдняў і за гэты час пабыў у споведзі і прычасьціўся. Усе гэтыя выдумкі накіраваны на тое, каб упэўніць веруючага, што ён павінен быць ціхім і спакойным, любіць сваіх ворагаў, не змагацца з імі, ня крыўдзіцца на іх, бо сказана ў эвангеліі: „Любіце ворагаў вашых“. Гэтыя словы даюць вялікую карысьць буржуазіі, але яны вельмі шкодны для працоўных. Між тым, рэлігійнае сьвята „вялікдзень“ на працягу цэлых стагодзьдзяў укаранілася ў быт працоўных. З гэтым сьвятам трэба змагацца, трэба растлумачваць, што гэта за сьвята.

Падставай сьвята „вялікдзень“ царква лічыць фантастычнае біблейскае апавяданьне аб тым, што першы чалавек з сваёю жонкаю Еваю жыў спачатку ў раі, але потым саграшыў, калі зьеў плод з таго дрэва, з якога есьці было забаронена. За гэта бог вельмі раззлаваўся на першых людзей, выгнаў іх з раю, пракляў іх. Гэты грэх называецца ў біблії „першародным грахом“. Ніхто ня мог зьняць з людзей гэтага граху. Для гэтага трэба было даць богу надзвычайную ахвяру. Такою ахвярою зьявілася сьмерць уласнага сына бога хрыста, які адпакутваў за грэх першых людзей. Думка, што бог за грахі людзей пакараў свайго ўласнага сына—ёсьць думка дзікуна, які ведае толькі адно пакараньне—крывавую помсту. Нічога жаласьлівага і навучальнага ў гэтым апавяданьні няма. Гэта думка паказвае, што „вялікдзень“ ёсьць спадчына дзікунства.

Адкуль-жа, аднак, узялася гэтая думка аб ратунку людзей праз сьмерць божага сына? Гэта думка была вельмі пашырана яшчэ за доўгі час да зьяўленьня хрысьціянства. Так, у пэрсаў такою ахвяраю зьявіўся бог Мітра, у эгіпцян—бог Сарапіс, у фінікіян—Адоніс, у фрыгійцаў—Атыс. Рэлігіі гэтых народаў мелі шмат чаго агульнага з хрысьціянствам: у іх было таінства хрышчэньня і прычашчэньня, яны верылі, што ёсьць „той сьвет“, дзе людзі жывуць пасьля сьмерці. Прычыну існаваньня веры ў сьмерць і ўваскрасеньне божых адпакутнікаў трэба шукаць у гаспадарчым жыцьці тых народаў, сярод якіх гэта вера жыла, а яна жыла ў тыя далёкія старажытныя часы, калі хрысьціянства яшчэ ня было. Так, вядомае яўрэйскае сьвята „вялікдзень“ было вясновым сьвятам ураджаю, калі богу неба і сонца прыносіліся ў ахвяру першыя плады новага ўраджаю, першакі людзей і жывёлы.

У час вясновай работы на полі асабліва патрэбна была ахвяра, каб адкупіцца ад кары за грахі мінулага году і каб тыя грахі не пашкодзілі ўраджаю на будучы год. Лепшаю ахвяраю быў чалавек. Людзей прыносілі ў ахвяру шмат якія старажытныя земляробскія народы. Гэты звычай быў і ў яўрэяў. Так, у біблії ў апавяданьні аб сям'і ўнуках цара Саула гаворыцца, што цар Давід выдаў ворагам яўрэяў, гавоаніцянам, сем унукаў цара Саула, якія былі павешаны на гары, пасьля чаго бог зьлітаваўся над краінаю. Гэта было ў пачатку жніва ячменю. Чым лепшай была ахвяра, тым больш яна была надзейнаю. Самаю лепшаю ахвярай богу лічыўся цар ці яго сын. Цароў-жа старажытныя людзі лічылі патомкамі багоў. Вось адкуль узялася думка аб ахвяры божых адпакутнікаў. Гэта думка паходзіць ад дзікунскай аграноміі, якая казала, што ўраджай будзе лепшы, калі забіць чалавека і мяса яго раскідаць па полі. Гэта яскрава адбілася ў апавяданьнях аб багох у старажытных народаў. Так пра эгіпецкага бога Азірыса гаворыцца, што ён дваццаць восем гадоў быў эгіпецкім царом, потым быў забіты ворагамі, раз-



*Прыносіць богу ахвяру.*

рэзаны на 14 кавалкаў і раскіданы па Эгіпецкай зямлі; потым яго жонка Ізыда пазьбірала кавалкі цела, зьляпіла іх і Азірыс уваскрос. Гэта фантастычнае апавяданьне кожны год інсцэніравалася на ўрачыстых рэлігійных забабонах. Адбывалася гэта сьвята перад пачаткам сяўбы. Малявалі Азірыса ў выглядзе пакойніка, з цела якога растуць 28 хлебных каласоў.

Пра грэцкага бога Дыоніса гаворыцца, што ён быў забіты, разрэзаны на кавалкі і цела яго было раскідана па зямлі, потым яго жонка Дэмэтра сабрала яго цела, зьляпіла яго, пасьля чаго Дыоніс уваскрос і ўзьняўся на неба. З цела яго атрымаўся хлеб, а з крыві—віно.

Вывучэньне жыцьця старажытных земляробскіх народаў паказвае, што, згодна іх звычаяў, мяса ад ахвяр ня толькі раскідвалася у палёх, але і зьядалася людзьмі, якія верымі, што праз гэта яны стануць падобнымі на боскага адпакутніка. Адсюль выходзіць пачатак хрысьціянскага прычасьця; веруючыя думаюць, што ў выглядзе хлеба і віна яны ядуць цела і кроў хрыста.

Такім чынам, карэньні хрысьціянскага „вялікадня“ хаваюцца ў дзікунскім земляробстве, у дзікіх, недарэчных, цёмных звычаях далёкай старажытнасьці, калі забівалі людзей для таго, каб лепш радзіў хлеб, калі елі чалавечае мяса і пілі кроў, думаючы, што можна зрабіцца шчасьлівым.

„Вялікдзень“ у цяперашні час страціў сваю сувязь з старажытным земляробствам, затое ён здабыў і замацаваў сувязь з клясавымі інтарэсамі буржуазіі. Эвангельскі хрыстос з земляробскага адпакутніка перавярнуўся ў згодніка, абавязкам якога зьяўляецца супакойваць усіх тых, хто нездаволены існуючым капіталістычным ладам. Калі запытаюцца ў любога веруючага аб пахаджэньні сьвята „вялікадня“, дык ён кажа, што гэтае сьвята ўведзена для ўспаміну аб пакутах, сьмерці і ўваскрасеньні хрыста, як гэта напісана ў эвангеліях.

Гэты адказ няправільны, бо навука давяла, што хрыста, як чалавека, ніколі ня было на зямлі, а таму ён ня мог пакутаваць, памерці і ўваскрэснуць. Эвангельскія апавяданьні аб хрысьце перапоўнены недарэчнасьцямі і супярэчнасьцямі, яны зьяўляюцца нічым іншым, як сказкамі. Каб у гэтым упэўніцца, трэба ўзяць некалькі прыкладаў. У эвангельлі гаворыцца, што хрыстос за шэсьць дзён да яўрэйскага „вялікадня“ ўрачыста ўвайшоў у Ерусалім, яго ўсе сустракалі, як цара яўрэйскага. Гэтага бязумоўна, не магло быць, бо яўрэі былі пад уладаю рымлян, і губарнатар Ерусаліма не дазволіў-бы наладжваць такую ўрачыстасьць. А, з другога боку, калі-б гэта магло здарыцца, дык незразумела, чаму яўрэі спачатку сустракалі хрыста—як цара, а потым патрабавалі ў рымскага губарнатара, каб ён даў загад расьпяць яго. Поўнаю бязглуздзіцаю зьяўляецца апавяданьне аб Юдзе—здрадніку. Вельмі ўжо ён танна прадаў свайго настаўніка (30 срэбраных манэт); апрача таго, ворагі хрыста, калі-б ён жыў, самі добра-б яго ведалі і ня мелі-б патрэбы ў паслугах Юды, пра якога гаворыцца, што ён паказаў хрыста рымскім воінам.

Пахаджэньне яўрэйскага „вялікадня“ наступнае. Старажытныя яўрэі былі вандраўнікамі, жывёлаводамі. Было ў іх вялікае вясновае сьвята, калі яны прыносілі ў ахвяру сваім багом ягнё, крывёю якога акраплялі свае шатры, а мяса елі з прэснымі ляпёшкамі і горкімі травамі. Мэта сьвята была такая: задабрыць злых багоў, каб яны ня шкодзілі жывёле. Такім чынам, сьвята яўрэйскага „вялікадня“ зьяўляецца сьвятам пастухоў, сьвятам жывёлагадоўлі. Потым, калі яўрэі сталі займацца земляробствам, дык да сьвята жывёлагадоўлі далучылі сьвята прэсных хлябоў, сьвята першага снапа. З новай мукі пяклі прэсныя ляпёшкі і прыносілі іх у ахвяру богу. Біблейскае тлумачэньне яўрэйскага сьвята не адпавядае сапраўднасьці. У бібліі гаворыцца, што калі бог задумаў вывесьці яўрэяў з Эгіпту, дык прапанаваў, каб у кожным доме зарэзалі ягнё і яго крывёю вымазалі ў дамох вушакі дзьвярэй, а мяса зварыць і зьесьці з горкімі травамі і прэсным хлебам. Уночы нібыта бог паслаў ангела, які забіў усіх „первенцев“ і жывёлу ў тых дамох, дзе вушакі ня былі змазаны кроўю. Адсюль назва сьвята пасха—пэйсах, гэта значыць,



*Вялікдзень—сьвята п'янства і хуліганства.*

„прахаджэньне міма“. Гэта тлумачэньне сьвята няправільнае. Ніякога выхаду яўрэяў з Эгіпту ня было. Усе біблейскія апавяданьні аб цудах, якія быццам здараліся пры выхадзе яўрэяў з Эгіпту, пераход іх праз мора і інш.—усё гэта зьяўляецца выдумкай, якая ня мае ніякай падставы.

Такім чынам, карэньні хрысьціянскага і яўрэйскага „вялікадня“ хаваюцца ў дзікунскім земляробстве, у дзікіх недарэчных, цёмных звычаях тых далёкіх старажытных часоў, калі забівалі людзей, каб лепш радзіў хлеб, калі яшчэ елі чалавечае мяса, пілі кроў і думалі, што праз гэта можна стаць падобнымі да боскіх адпакутнікаў.

Вялікую шкоду прыносіць рэлігійнае сьвята і для гаспадаркі. Духоўнікі імкнуцца ўкараніць веруючым тую думку, што палепшыць сваё матар'яльнае становішча і падняць гаспадарку яны могуць толькі з дапамогаю боскай сілы.

Разам з гэтым, „вялікдзень“ зьяўляецца сьвятам п'янства і хуліганства. Веруючыя часта трацяць апошнія сродкі на гэтае сьвята. А колькі бывае прагулаў праз гэтае сьвята?

У нас у СССР укараняюць рэлігійнае вучэньне аб міры і братэрстве паміж клясамі папы, ксяндзы, равіны, сэктанты, кулакі, нэпманы, гандляры, быў-

*(Працяг на сл. старонке).*

Андрэй Александровіч.

# Як дзеці памагалі будаваць самалёт




Было гэта ўлетку... Сьвята было.
(Сьвята для нас—адпачынак).
Сонца спакойна за горы зайшло,—
змрок расьцілаўся далінай.
Ветрык вясновы прабег па дуб-
рове
шэпчацца ціха сасоньнік.
У школу на сход сабіраўся народ...
Весела йграе гармонік...
Сабраўся народ...
Устаў старшыня,
прамову пачаў ён такую:

— Таварышы!
Наша цяпер старана
долю куе залатую.
І школы будуем,
і ставім масты,
сушым балотаў
абшары.
Але вось буржуі
супроць беднаты,—
хочуць зьніштожыць
пажарам. .
Таму і сабралі мы
гэты вось сход;
ёсьць прапанова такая:
каб мы памагалі
збудаваць самалёт
для абароны краю.
— Правільна! Правільна!
Крыкнуў народ.—
Award памажам усе збудаваць,
збудаваць самалёт!
— І мы дапаможам!—
крычыць дзетвара.—
На крыльля мы зможам
як-небудзь сабраць.

* * *



Хто што мог—усе давалі:
Хто ячмень, а хто авёс.
І казалі:
— будзе лётаць
аж да сонца, да нябёс...

Піонэры ўсім атрадам
вышлі ў поле палоць грады.
Працавалі аж да поту,
а работы шмат было.
І за тыдзень зарабілі
самалёту
на крыло.
... Збор ішоў...
І незадоўга
напісалі на завод:
калі ласка, вось вам грошы,—
пабудуйце самалёт...



* * *

Роўна-роўненька праз год
прыляцеў той самалёт,
так чаканы і жаданы—
пролетарскі самалёт!
З вёскі глянуць на пілота
на майдан ляцеў народ;
да таго й прыйшла ахвота,
каб памацаць самалёт.
Колькі радасьці і ўздыму,
нібы першы дзень вясны.
О, крылатая машына,
абарона стараны!
Самалётчыка гасьцінна
стала вёска частаваць...
Піонэры ля машыны
дык гатовы й начаваць.
Гэтак кожнаму ахвота,
каб палётаць, вось яно...
Кожны хоча стаць пілотам,
кожны думае адно...
Сьмельчакі адразу селі:
тры хлапцы і сам пілот.
Зашумеў—зайграў пропэльлер
і падняўся самалёт.
О, плыві, наш самалёт,
ўсё вышэй, вышэй штогод!



## Вялікдзень—сьвята нашых ворагаў.

*(Працяг)*

шыя абшарнікі, белагвардзейскія афіцэры і царскія жандары. Уся гэта „цёплая кампанія“ ў дарэволюцыйныя часы бязьлітасна зьдзекавалася з працоўных, у часы грамадзянскай вайны—старалася задушыць рэволюцыю, а цяпер—усе яны вядуць шкодную работу; угаварваюць працоўных, каб яны жылі ў згодзе з усімі людзьмі, гэта значыць, каб рабочы і бядняк любілі кулака і нэпмана, папа, ксяндза і равіна. Рэлігійныя організацыі імкнуцца захапіць у свае лапы працоўную моладзь і атруціць яе мазгі рэлігійным дурманам. Рэлігійнікі толькі на словах кажуць аб „любві і сьмірэньні“, а на справе яны кіруюць забойствам селькораў і актыўных савецкіх і партыйных працаўнікоў і займаюцца шпіёнскай дзейнасьцю на карысьць замежнай буржуазіі. Так, у Менску, у лютым гэтага году, было арыштавана 15 сэктанцкіх працаўнікоў, якія зьяўляліся шпіёнамі замежнай буржуазіі.

Не рэлігійныя сьвяты патрэбны працоўнай моладзі. Не ў царкву, касьцёл і сынагогу трэба ісьці працоўнай моладзі ў дні „вялікадня“, а ў першамайскія калёны, дэмонстраваць сваё пролетарскае адзінства.

Даўгаполаў.

# НАША СЬВЯТА.

*(Першамайская інсцэніроўка).*

Прымаюць удзел:

1. *Кастусь.*
2. *Язэп.*
3. *Павадыр.*
4. *Група вясковых піонэраў.*
5. *Група гарадзкіх піонэраў.*

## Сцэна 1-ая.

Звычайная вясковая хата.

**Кастусь** *(праз вакно).*

Зайдзі-ж кажу, Язэп, зайдзі. Табе ёсьць новыя загады.

*(Язэп уваходзіць).*

Бяры сыгнал—хутчэй глядзі-ж!—
Ідзі склікаць ты сход атрадны.

**Язэп.**

А хто казаў? Мо' наш важак?

**Кастусь.**

Ды ён-жа. З поля йшоў нядаўна.

**Язэп.**

Дык я, брат, жыва, калі так!

**Кастусь.**

Бяжы-ж ты, браце, хутка й спраўна!
Ідзі трубі, склікай на сход.
А потым—хварбы захапі,
І маляваць пачнем газэту.
Зайдзі-ж з канца сяла й трубі,
Адно каб хутка было гэта.

*(Язэп выходзіць. Кастусь складае розныя паперы і разам з імі „Беларускі Піонэр").*

**Павадыр** *(уваходзіць).*

Ну што? Сказаў?

**Кастусь.**

Так. Толькі што!

**Павадыр.**

Такіх я хлопцаў і люблю.
Вось хутка пойдзем мы у клюб.
Пытаньне будзе ў нас стаяць,
Як лепей Май адсьветкаваць.

**Кастусь** *(паказвае „Піонэр").*

Ну, і часопісь,—нумар слаўны!
І ў часопісі тут, брат,
Інсцэніроўка ёсьць якраз.
Пад загалоўкам „Наша Сьвята".

**Павадыр.**

А, добра, брат, хаця што е,—
Бо ў нас няма ні аднае.

*(Разглядае).*

Інсцэніроўка, брат, на славу!
Ну, так і быць, яе паставім...
І надта добра будзе гэта.
Яшчэ зрыхтуем сьценгазэту
І ўсім яе мы пачытаем.

**Кастусь.**

На сцэне хорам пасьпяваем,
І вершы будзем дэклямаваць.

**Павадыр.**

Наогул—будзем сьвяткаваць!

*(Выходзяць).*

## Сцэна 2-ая.

Вясковы клюб. Спачатку на сцэне нікога няма, а потым уваходзяць піонэры і становяцца паўкругам, тварам да гледачоў. Наперадзе барабаншчык.

**Адзін.**

Зноў прышоў Май залаты,
Гучней-жа у бубны ударым!

**Усе.**

Захад і Ўсход—браты,
Адны ў іх і думкі і мары.

**1-ыя.**

Над Беларусьсю Заходняй
Крыльлі разгортвае ожэл...

**Усе.**

Май для працоўных—госьць,
Радасны сёньня кожны!

**Адзін.**

Край наш—сусьвету зара,
Край наш—сусьвету маяк.
Сёньня савецкі наш край
Чырваньню зьзяе, як мак.

**1-ыя.**

Ад Нью-Ёрку да Гімалаяў

**2-ія.**

Сьцяг наш чырвоны макам палае!

**Адзін.**

Птушкі іначай пяюць,

**1-ыя** *(ціха).*

Радасьней шэпчацца гай.

**Усе.**

Стрэлі мы радасьць сваю,
Стрэлі мы свой веснамай.

**1-ыя.**

Піонэрыя! Май ізноў!
У трубы зайграйма ўпарцей!

**Усе.**

Вёска і горад—адно,
Дружна стаяць на варце!

**1-ыя.**

Пойдзем-жа Май сустракаць!

**2-ія.**

Шэрагі—дружна у ногу.

**1-ыя.**

Песьні, бы тая рака!

**Усе.**

Нас у сусьвеце многа!

*(Строяцца і выходзяць).*

## Сцэна 3-ая.

Сцэна некаторы час пустая. Потым уваходзіць група піонэраў, становіцца роўным шэрагам. На грудзёх слова *„Кітай"*

**Адзін.**

Вулкі Кантону заснулі,
Вечар рассыпаў шоўк...
Лі-чан—кітайскі кулі—
Толькі што з працы прышоў.

**1-ыя** *(ціха).*

Змораны...

**2-ія** *(мацней).*

Цяжкая праца!

**Усе** *(моцна).*

Усё-ж ён бадзёры і горды!

**Адзін.**

З бацькам ён выйдзе змагацца
Заўтра на вуліцы гораду.

**1-ыя.**

Хоча біду з плеч скінуць,
Цяжкі кайдан абрыдзеў!

**2-ія.**

Слухайце-ж, мандарыны,
Хутка канец вам прыдзе!

**Усе.**

Упусьціце з рук сваіх лейцы,—
Кітай пазбудзецца бруду!
І паганыя, злыя ангельцы
Больш панаваць ня будуць!

**1-ыя.**

Рэволюцыі ня змогуць задушыць,
Путы катаў хутка перарвуцца!

**Усе.**

Прэч-жа, здрадны Чан-Кай-шы,—
Бачыш—!дзе рэволюцыя!

**1-ыя.**

Заўтра рана пакутны Кітай,
Толькі сонца зазьзяе над шатамі,

**2-ія.**

Сустракаць будзе Першы Май,
Май—міжнароднае сьвята.

**Адзін.**

Але спаткаюць інакш—
Будзе гора, бяды будзе поўна...

**Усе.**

Сьцяг іх чырвоны, як мак,
Будзе абліты кроўю...

**Адзін.**

І ня толькі Кітай, а ўвесь сьвет
Заўтра хваляй магутнай рушыць!

**Усе.**

Дык няхай Першы Май жыве!
Рэволюцыі ніхто не задушыць!

*(Строяцца).*

Раз-два, раз-два!
Гэй, сусьвет!
Заўтра Май!
Вышэй сьцяг падымай!
Гучней песьні сьпявай!

## Сцэна 4-ая.

На сцэну з аднаго боку, ўваходзяць гарадзкія піонэры, з другога—вясковыя. Падыходзяць і салютуюць.

**Вясковыя.**

Мы рады, што вы прышлі
Май спатыкаць залаты!

**Гарадзкія.**

Так, дарагія,
Мы вам таксама рады!

**Адзін.**

Вось вам і кніжкі,
Чытаць
Будзеце ўсім атрадам.

*(Падае кніжкі).*

**Адзін вясковы.**

Май спатыкаць дарагі
Сёньня усе павыходзілі...

**Гарадзкі.**

Мы на маёўку прышлі
У вёску юнацкім паходам!

**Першыя.**

Слухай-жа, змучаны Захад!
Слухай, далёкі Ўсход!
Мы інакшым сёньня шляхам
Дружна ідзем у паход.

**Адзін.**

Чуеце—Асінабуд сьпявае...
І машына ў палёх гудзе!
Мы вітаем прыгожасьць Мая—
Наш міжнародны дзень!

*(Строяцца і выходзяць).*

К. Шавель.

# Спосаб Джыованьні Ціцыоні.

Апавяданьне **Бар. Аленіна.**

## Таемны голас у тэатры.



Рымскі опэрны тэатр—адзін з найпрыгажэйшых тэатраў у Эўропе.

У гэты вечар у тэатры было асабліва многа народу. Усе багатыя людзі Рыма прышлі паслухаць новага сьпяваку, пра голас якога нясьціхана трашчалі газэты. Сытыя, тлустыя купцы і іх жонкі, прыдворныя, найбольш вядомыя фашыстыя ў чорных гарнітурах запаўнялі залю тэатру. У лёжах блішчэлі і мільгацелі брыліянты і золата. У першай ад сцэны лёжы паказаўся нізкі таўставаты чалавек з сумным абліччам, з шрамам на твары. Наўкола ўсё зашаптала, здавалася, вецер прамчаўся па радох:

— Дучэ, дучэ...

Гэта быў сам Мусаліні. Разам з ім у лёжы была яго жонка, сухарлявая, вельмі нэрвовая жанчына; адзета яна была ў дарагое бальнае ўбраньне. Поруч з ёю сядзела трое вядомых фашыстых,—штаб Мусаліні.

З самых апошніх паверхаў таксама пачуўся шэпт. Але гэты шэпт быў не такім: у ім была зьненавідзь і пагарда. Тут на танных месцах сядзелі, захліпаючыся ад духаты (бо нагрэтае паветра ішло ўверх), рабочыя з дробных майстэрняў, з некаторых заводаў, што знаходзяцца на акраінах гораду, моладзь—звычайная публіка танных мейсц.

Гэта былі тыя гледачы, на якіх сытыя, раскормленыя служакі каралеўскага тэатру глядзелі з пагардай: гэтыя гледачы ня куплялі ў іх ні бінокляй, ні програм; нават марожанага купіць у тэатральных служакаў яны не маглі, бо ня мелі лішняй капейкі. І, наогул, гэта была несупакойная публіка.

Заслона рассунулася, спэктакль пачаўся. Першая частка прайшла добра, публіка з ніжняга паверху далікатна папляскала новаму сьпяваку:

— Брава, маэстра!..

Пачаўся перапынак. Модна прыбраныя жанчыны, купецкія і графскія дочкі і жонкі абмахваліся ад духаты знарочыстымі пpыладамі і елі марожанае. Фашыстыя ў лёжы Мусаліні ажыўлена гутарылі. І раптам здарылася нешта страшнае, ад чаго ўвесь тэатр нібы акамянеў.

Зьверху пачуўся голас. Ён ішоў невядома адкуль, але зьвінеў ясна і выразна. Гэты голас прагаварыў:

— Грамадзяне Рыма, слухайце!

Тэатр увесь сьцішыўся. Голас гаварыў:

— Тут у лёжы знаходзіцца Мусаліні. Сіньор Мусаліні, вы сядзіце ў лёжы з сваёю жонкаю, у вас прыгожае адзеньне, выгляд у вас зусім добры. Але вы забойца, сіньор Мусаліні! Сёньня ў аднэй з вашых турмаў павешаны юнак Адрэа Валіоні, які вінаваты толькі ў тым, што быў комсамольцам. І вы ўсе тыя, што сядзяць тут, купцы, ягамосьці, фашыстыя—вы ўсе вінаваты ня толькі ў сьмерці гэтага комсамольца, але ў сьмерці і пакутах многіх другіх. Там, наверсе, сядзяць рабочыя і служачыя, якія могуць страціцца на тэатр ня больш як раз у год, дый то на таннае месца. Яны жывуць бедна таму, што фашыстыя сваімі кіпцюрамі разрываюць краіну на кавалкі, крывавяць зямлю рабочымі, разбураюць багацьце краіны, трымаюць у турмах тысячы лепшых сыноў працоўных.

Мусаліні ў лёжы пабялеў, потым твар яго загарэўся агнём лютасьці. Ён штосьці сказаў фашыстым і вышаў з лёжы, моцна стукнуўшы дзьвярыма.

Па залі замільгацелі паліцэйскія, дарэмна стараючыся знайсьці вінаватага гэтага неспадзяванага скандалу. Але голас, які нямаведама адкуль выходзіў, зусім спакойна гаварыў далей:

— Не турбуйцеся шукаць мяне, паліцэйскія сабакі і фашыстыя! Вам усё роўна мяне не знайсьці. Мяне ня можна ўбачыць. Я буду гаварыць зьверху, і справа, і зьлева, і зьнізу—і ўсё роўна мяне ніхто ня знойдзе. Слухайце, грамадзяне Рыма! З гэтага часу кожны вечар у гэтым і ў іншых тэатрах буду я гаварыць праўду аб Мусаліні і яго зграі, буду выкрываць усе іх шкодныя для працоўных учынкі, будуць гаварыць тую самую праўду, якой вы ня знойдзеце ў прадажных фашысцкіх газэтах!

Паліцэйскія зьбянтэжыліся, яны абшнарылі ўсе куточкі, але голас, глумячыся з іх, гучэў моцна і выразна зьверху. Тады паліцэйскія кінуліся на галёрку. Але тут яны пераканаліся, што голас ішоў са столі. Ён належаў нейкаму чалавеку, якога ніхто ня бачыць; чалавек гэты хіба быў бяз цела, бо-ж толькі мухі могуць поўзаць па столі.

Потым голас скончыў:

— Да заўтра! Заўтра я зноў буду выкрываць злачынцаў. Да заўтра, грамадзяне!

Спэктакль зноў пачаўся, але ніхто ўжо ня слухаў славутага сьпявакі. Лёжа Мусаліні была пустой.

Пасьля другой дзеі гледачы пачалі разыходзіцца. Кожны ламаў сабе галаву: хто-б гэта мог гаварыць зьверху? І як ён гэта рабіў? Радыё? Але-ж для гэтага патрэбен рупар. Ніякага рупара, ніякага прыёмніка ня было! Ня здань-жа гэта?!

Купецкія жонкі, якія вераць у забабоны, сапраўды пачалі згаджацца: можа гэта і ёсьць здань замучанага ў турме чалавека? Але іх мужыкі ня верылі ў гэта.

Газэтам было сурова забаронена пісаць хоць-бы што пра гэта здарэньне. Але й без газэт увесь Рым ведаў пра здарэньне ў тэатры. Усюды толькі й гаворкі было, што пра невядомы голас. Тысячы людзей ламалі сабе галовы над загадкай і ніяк не маглі яе разгадаць.

Начальнік рымскай паліцыі выкліканы быў да Мусаліні. Назад ён вышаў бледны, як палатно, і зараз-жа склікаў сваіх памочнікаў.

— Дучэ патрабуе, каб вінаваты быў знойдзены.

Памочнікі адказваюць:

— Як мы яго знойдзем...

— Як хочаце! У іншым разе будзе дрэнна!

## Голас не сунімаецца.

У наступны вечар рымскі тэатр опэры быў абкружаны паліцэйскімі атрадамі. Пры ўваходзе ў тэатр уважліва правяралі дакуманты. Але ў гэты вечар голас і ня гучэў у тэатры.

У гэты вечар у самым вялікім рымскім кіно адбываўся прагляд новага фільму і ўсе багатыя рымляне сабраліся там. І раптам, у час перапынку, зноў пачуўся голас зьверху.

Ён далікатна прывітаўся да прысутных, а потым пачаў гаварыць. Ён апавядаў, як абыходзяцца ў турмах Мусаліні з арыштаванымі, аб нязвычайнай беднасьці ў рабочых кварталах, ён апавядаў, як тысячы жанчын і дзяцей, у якіх фашыстыя адабралі бацькоў, паміраюць на вуліцах ад голаду! Ён апавядаў пра тое, што ўсе фашыстыя—хабарнікі.

Заля сьцішылася, слухаючы гэты голас зьверху. Гледачы ў сполаху шапталіся:

— Зноў! Гэта страшна няпрыемна! Паглядзеце на дучэ: ён гарыць чырваньню, у яго будзе ўдар!

— Хто гэта, хто гэта гаворыць?!

— Няўжо нельга злавіць яго?!

— Я табе кажу, што гэта не чалавек, гэта здань!

— Ат, глупства, напэўна радыё!

Але якраз у гэту хвіліну голас моцна закрычаў:

— Гэта ня радыё. Я прысутнічаю тут і ўсё-такі ніхто ня зможа мяне знайсьці. Ня турбуйцеся дарма. Нічога з гэтага ня будзе.

Зноў разгневаны Мусаліні паехаў дамоў і публіка разышлася перапалоханай.

На другі дзень голас зноў гаварыў пра фашыстых, на гэты раз на канцэрце. Яшчэ праз дзень той-жа голас бічаваў Мусаліні ў самым вялікім рымскім магазыне.

Фашыстыя і паліцыя скруцілі галовы. Увесь Рым толькі і гаварыў пра гэта. Аб гэтым шапталіся ўсюды: у рабочых кварталах, у банках, у тэатрах.

Тое, чаго не рабілі падкупленыя фашыстымі газэты,—рабіў голас. Ён гаварыў за ўсіх, гаварыў моцна і выразна, апавядаў ня толькі праўду пра самога Мусоліні і яго праступкі, але і аб усіх ганебнасьцях рымскай буржуазіі.

У рабочых кварталах радаваліся.

А голас не суніMaўся. У сярэдзіне тыдня ён неспадзявана загаварыў у перапоўненым пасажырамі вагоне. Голас ішоў аднекуль зьверху і ня было магчымасьці прымусіць яго змоўкнуць. Вагон спыніўся, паліцэйскія пачалі лазіць па страсе. Але там нікога ня было, а голас усё гучэў.

У пятніцу той-жа голас раптам загаварыў на ўрачыстым парадзе фашыстых. На сьвежым паветры ён гучэў так-жа моцна, як і ў памяшканьні. Ён ішоў зьверху, а на версе нічога ня было, апрача паветра.

Рымляне, якія вераць у забабоны, пачалі гаварыць, што гэта нейкі сьвяты абурыўся супроць лютага Мусаліні. Але голас зараз-жа адказаў на гэта:

— Грамадзяне, я ня веру ні ў бога, ні ў чорта, ні ў сьвятых. Я—не сьвяты! К чорту сьвятых! Прэч фашызм і папоў, прэч чорныя расы манахаў, няхай жыве рабочая кляса!

Мусаліні захварэў ад гэтага. Былі сабраны ўсе фашыстыя, паліцыя і войскі. Але можна было сілаю зброі разагнаць натоўп людзей, можна было страляць з гармат па ворагу, якога бачыш. А вораг, які гаварыў нямаведама адкуль, з пустой прасторы,—гэтага ворага перамагчы нельга.

## Перапыненая гутарка.

Начальнік рымскай паліцыі сядзеў у сваім габінэце з кампрэсам на галаве. Мусаліні перадаў яму, што калі невядомы злачынца ня будзе да вечара злоўлены, дык начальнік пойдзе ў турму... А што такое фашысцкая турма—аб гэтым начальнік добра ведаў.

Яго памочнікі моўчкі стаялі кругом стала. Яны ні чым не маглі памагчы начальніку. Начальнік перамяніў кампрэс і запытаў:

— Які настрой у горадзе?

— У рабочых кварталах несупакой. Нават у цэнтры гораду абураны...

— Голасам?

— Не, тым, аб чым гаворыць гэты голас.

Начальнік паліцыі прастагнаў:

— Гэта сам чорт!

— Хутчэй за ўсё—гэта комуністы. Але як ён гэта робіць—невядома.

Яшчэ больш слабым голасам начальнік сказаў:

— Я разганяў тысячныя сходы рабочых!



*Мусаліні ў лёжы пабялеў.*

Я арыштоваў комуністых сотнямі але гэты—умагіліць мяне!

У гэты час адзін з памочнікаў, што стаяў ля вакна, сказаў, адвярнуўшыся.

— На вуліцы сабраўся натоўп. Нешта здарылася.

Яны адчынілі вакно і пачулі зноў той-жа голас, які гаварыў вялізарнаму натоўпу:

— Вось управа паліцыі, грамадзяне! Начальнік паліцыі толькі ўчора атрымаў хабар у дзесяць тысяч руб. ад купца Джыраламы. Гэта паліцыя нанятая фашыстымі, каб зьбіваць рабочых і арыштоўваць іх за самыя мізэрныя праступкі. Паліцыя не чапае толькі багатых.

Начальнік паліцыі страціў прытомнасьць.

У працягу яшчэ аднаго тыдня голас выкрываў учынкі фашыстых. Рабочыя радаваліся, што голас выкрываў фашыстых.

## Голас разьвітваецца.

І вось у нядзелю на гуляньні, дзе сабралася шмат народу, голас зноў загаварыў, і зноў зьверху.

— Грамадзяне! Гэта мая астатняя прамова. Я зьнікаю на некаторы час. Але я хачу спадзя-

вацца, што мае прамовы дарма не павісьлі ў паветры. Рабочыя і работніцы,—памятайце, што вы павінны змагацца з фашызмам і з буржуазіяй і адваяваць свае правы.

З гэтага дню голас больш не гаварыў. Чужаземныя корэспандэнты пісалі ў сваіх гэзэтах, што гэтага зьявішча нельга растлумачыць. Альбо тут мы маем справу з новай вынаходкаю, або...

Што „або“, яны ня ведалі.

У той-жа дзень пад вечар на адным з рымскіх вакзалаў садзіўся ў цягнік падлетак, гадоў пятнаццаці. Яго праводзіў сухі, суровы, з худашчавым тварам чалавек, гадоў сарака. Яны ціха гутарылі, стоячы ля вагону.

— Ну, тваё шчасьце, Джыованьні, што здагадаўся аб гэтым я. Калі-б хто-небудзь другі... прапаў-бы ты. Цябе павесілі-б!

Чарнавокі, румяны Джыованьні паматаў галавой.

— Нічога, выпутаўся-б!

— Наўрад.

Яны памаўчалі. Потым сухі, худашчавы чалавек сказаў.

— Я спужаўся, што ў нас у цырку могуць здагадацца. Але ніхто не здагадаўся ўсё-ж такі.

Чарнавокі юнак запытаўся:

— Але ўсё-ж мой спосаб прынёс карысьць? Тут у горадзе, асабліва, бо-ж ні адна газэта нічога ня піша пра ўчынкі фашыстых!?

— Вялізарную карысьць! І я рад, што першым, хто ў Рыме сказаў праўду аб Мусаліні, стаў наш брат, цыркавы артысты і сын рабочага. Бачыш, як добра, што я цябе навучыў нутровяшчанью. Цяпер ты будзеш выступаць у Лёндане, здаецца?

— Так.

— Даюць сыгнал. Бывай!

Сухі пажылы чалавек схапіў юнака і моцна пацалаваў яго. Цягнік памаленьку адышоў.

Пажылы чалавек доўга махаў хустачкай, праводзячы юнака.



*Начальнік сядзеў з кампрэсам на галаве.*

Увечары ён быў у цырку. Пажылы чалавек быў клёунам—такое было яго рамяство.

Артыстыя пыталі:

— А дзе Джыованьні?

Клёун адказаў, накладваючы грым на твар:

— Джыованьні выехаў, ён будзе выступаць у лёнданскім цырку.

Так скончылася таемная гісторыя з невядомым голасам. Толькі двое ведалі праўду: сам Джыованьні ды стары клёун.

Справа-ж заключалася вось у чым: клёун Самуэль, які быў у маладосьці адным з лепшых нутровяшчальнікаў у цырках Эўропы, навучыў Джыованьні гэтай справе.

Тэхніка гаворкі была ў тым, што нутровяшчальнік мог размаўляць, напружваючы мышцы жывата, зусім не разяўляючы рота. Яго ня мог ніхто заўважыць, хоць-бы і стаяў блізка.

А галоўнае, нутровяшчальнік мог накіроўваць голас у які хацеў бок.

Здольны і цярплівы Джыованьні аўладаў гэтым штукарствам вельмі дасканала, як ніхто; а з тае прычыны, што ён быў членам падпольнай комсамольскай ячэйкі,—ён скарыстаў сваё штукарства для змаганьня з фашызмам.

Здагадаўся аб гэтым толькі клёун Самуэль. І ён-жа прымусіў Джыованьні пакінуць Рым, баючыся, што хто-небудзь з артыстых цырку даведаецца пры таемнасьць невядомага голасу.

Джыованьні выступае і цяпер у цырках Эўропы.

## НЯЎДАЛАЯ АГІТАЦЫЯ.

*Піонэры ўважліва слухалі вялікую прамову павадыра Піпкі на тэму: „Рэлігія і міжнародная рэволюцыя“. Піпка стаяў на стале так, што яго шапка шоргалася аб столь, пэцкалася мелам. Бурна і шумна... Але і гэта было толькі дзякуючы крыку павадыра. Піонэры спалі салодкім сном, і толькі Лаўрык часам прачынаўся пад рэзкі крык павадыра... Павадыр не заўважаў такой увагі піонэраў да яго дакладу, і толькі мацней і мацней бушаваў. Закончыў сваю прамову ён так:*

*— Няхай жыве рэволюцыя і памрэ рэлігія! Ура! Ура!*

*Піонэры прахапіліся.*

*— Што тут такое?*

*— Чаго вар‘яцееш?*

*— Я-ж даклад рабіў, а вы што?*

*— Мы спалі...*

*Павадыр крыху памякчэў.*

*— Але мо‘ хоць крыху чулі?*

*— Ну?*

*— Дык, прышоўшы дамоў, агітуйце бацькоў...*

*Лаўрык добра запомніў словы павадыра, што агітацыя павінна праводзіцца ў працэсе працы. І калі бацька папрасіў Лаўрыка памагчы падняць кругляк грабу на сьціртu, то Лаўрык адразу-ж падумаў: „Ну, тут я і агітну! „Працэс працы!“*

*Паднялі кругляк і нясуць. Цяжкі быў.*

*— Слухай, тата! Няхай жыве міжнародная рэволюцыя і памрэ рэлігія!—крыкнуў Лаўрык.*

*Ад перапалоху ў бацькі выпала з зубоў люлька і ён упусьціў кругляк.*

*— Чаго ты, дурань?*

*— Ну, гэта значыцца я агітую цёмную масу...*

*Бацька схваціў палку і так сьцебануў Лаўрыка, што ў таго ў вачу пацямнела.*

*У самоце потым Лаўрык пачаў пісаць верш:*

*„Я ўжо не агітатар,*

*Бо лупцуе мяне тата“...*

*і далей у гэткім тоне.*

*Ну, а як думаюць чытачы, хто тут вінават: Лаўрык, Піпка ці бацька?*



# Любіш яблыкі—умей даглядаць сад!

## САД ЛЮБІЦЬ ДОГЛЯД!

Пасадзіць у садзе пладовыя дрэвы і ягадныя кусты і махнуць на гэты сад рукою,—расьці сабе як хочаш!—гэта справа кепская. Хто-хто, а гаспадар то ўжо ведае, што нават і бульба добрая ў полі ня вырасьце, калі пакінуць яе бяз догляду, ды не абкопваць 2—3 разы. Вось і за садам патрэбен догляд гаспадарскага вока.

Перш за ўсё, у добра дагледжаным садзе рознай травы не павінна быць. У кожным разе, *наўкола куста павінна быць заўсёды чыста, а зямля павінна быць пульхнай;* трава высушвае глебу, адбірае ў кустоў і дрэваў усю харч і, такім чынам, робіць вялікую школу ўраджайнасьці.

Раньняй вясною, як толькі сыдзе сьнег і прасохне зямля, трэба зьняць з маладых дрэваў зімовую абвязку. Потым трэба *ўспульхніць* зямлю, якая за зіму зьлежалася. Робіцца гэта матыкамі. Зямля павінна быць успульхнена на 2—3 вярш. Калі-ж перакапаць занадта глыбока, ды яшчэ не матыкай, а рыдлёўкай, — то папсуецца шмат самых лепшых карэньчыкаў, якія дрэўца пасылае для шуканьня харчы; таму ўскопваць зямлю трэба матыкай і асьцярожна.

## НЕ ШКАДУЙ УГНАЕНЬНЯ!

Потым месца ля дрэваў і кустоў трэба прыкрыць пластам перапрэлага гною, пасыпаць глебу попелам і адразу-ж зьмяшаць з зямлёю.

Каб паложаны гной ня выветрываўся, трэба добра прыкрыць яго зьверху на прыкамельных кругох дзірвановай ці кампоснай зямлёю.

Рэшту зямлі ў садзе вельмі карысна ўсю перакапаць на поўны штых рыдлёўкі і наогул заўсёды старацца трымаць яе ў выглядзе чорнага папару ці засадзіць гароднінаю. Калі ў садоўніка перапрэлага гною няма, а ёсьць толькі сьвежы, з хлява, то яго трэба злажыць наўкола дрэва ці куста і зьверху засыпаць зямлёю; гной да восені сапрэе і будзе закапаны ў зямлю. Летнія дажджы ці паліўка будуць умываць у глебу карысныя часткі гною, і дрэва будзе жывіцца імі пры дапамозе тых карэньчыкаў, якія разьмешчаны якраз у гэтай частцы прыкамельнага кругу.

Калі зямля ў садзе гліністая, дык у дажджлівае лета яна хутка зьлежваецца; трэба жалезнымі граблямі баранаваць зямлю.

Маладыя пасадкі будуць усё больш ды больш укарэньвацца і расьці, і прыкамельныя кругі прыдзецца пашыраць на адлегласьць галінак кароны; гэту работу трэба праводзіць з году ў год, бо бяз гною маладыя карэньчыкі, якія кожны год пашыраюцца, ня будуць мець харчы і ня будуць расьці.

## АЧЫШЧАЙ САД!

Камель маладога дрэўца вясною трэба добра абгледзець, змыць вапну і ўсё лета трымаць у поўнай чыстаце. Калі камель з восені быў добра абмазаны вапнавым малаком, кара захавае ўсю сваю сьвежасьць: вапнавае малако зьнішчае ўсялякіх чужаедаў; белы-ж колер абмазкі захавае кару ад марозу.

Здараецца, што на самым камлі ці на карэньнях зьяўляюцца парасткі; іх трэба адразу-ж зрэзаць вострым садовым нажом, бо яны толькі шкодзяць дрэву. Потым трэба агледзець галінкі дрэва, карону. Усе паламаныя галінкі, пераплеценыя паміж сабою, і ўсе тыя, што растуць у сярэдзіну кароны, трэба выразаць. І наогул, карона павінна быць ня густая, каб сонца і паветра зусім вольна праходзілі ва ўсе яе часткі. Калі дрэўцы былі пасаджаны ў вельмі маладым узросьце,—не старэй трох год,—то ў першы час па ўкараненьні на новым месцы яны асабліва будуць разьвіваць рост галінак; тады трэба іх абрэзаць (як кажуць садоўнікі—прыкароніць).

Калі галоўны гучок на 2-гі год пасьля пасадкі вырасьце на 12 вяршкоў, яго трэба падрэзаць, каб затрымаць крыху рост; тады толькі дрэва з баковых вочак гэтага гучка зможа даць новыя бакавыя парасткі, якія дадуць другі рад галінак. Ад гэтай абрэзкі карона зробіцца пышнай.

Ад бакавых галінак, якія ўжо ёсьць на дрэўцы, адрэзваецца адна трэць ці адна чвэрць усёй іх даўжыні; адрэзы гэтыя трэба рабіць заўсёды над вочкам і некалькі наўскось. Пасьля 2—3 гадоў правільнай абрэзкі карона будзе мець добры выгляд; тады абрэзку можна спыніць.

## ЗА ЎРАДЛІВЫ САД!

Кажуць, што яблыкі ў садох бываюць праз год. Але гэта ня так. У добра дагледжаным і штогод угноеным садзе дрэвы родзяць штогод; калі-ж яны родзяць праз год,—значыць сад няправільна ўгнойваўся.

Часта бывае і так, што на дрэвах вырастае занадта шмат пладовых пупушынак. Дрэва ня можа ўсіх іх вырасьціць: праўда, шмат пупушынак абрываецца ветрам, але ўсё-ж астаецца іх гэтулькі, што яны сядзяць па 2 і па 3 разам. Тут ужо добры гаспадар-садавод павінен сам памагчы дрэўцу вызваліцца ад лішніх пладоў,—ён павінен пазрываць лішні цьвет; ад гэтага плады будуць буйнейшыя, і дрэва страціць менш сокаў, якія спатрэбяцца для ўраджаю на другі год.

Пры такім руплівым доглядзе сад будзе радзіць што год, і плады будуць лепшыя.

Разам з ростам дрэвы будуць радзіць усё лепш, але на гэта, пэўна-ж, будуць траціць больш сокаў—свае сілы. Таму для старэйшага дрэва таго ўгнаеньня, якое кладзецца ў сухім выглядзе, ня хопіць: яго трэба яшчэ добра паліць знарочыстаю гнаёваю жыжкаю. Каб прыгатаваць такое ўгнаеньне, трэба зрабіць так: у якуюнебудзь кадушку на адну трэцюю частку яе насыпаць гною, а астатнія дзьве часткі даліць вадою; потым палкай добра разьмяшаць гной у вадзе і так пакінуць на тыдзень ці два; на шосты дзень у гэтую жыжку ўсыпаць паўвядра попелу і таксама добра разьмяшаць. Потым у маі—чэрвені кругом дрэва, дзе канчаюцца галінкі кароны, трэба выкапаць ня вельмі глыбокую канаўку і выліць у яе прыгатаванае ўгнаеньне, разбавіўшы яго ў 2—3 разы вадою. Пад старое дрэва такога ўгнаеньня можна ўліваць да 5-ці вёдзер. Паліваць такім угнаеньнем трэба ў другой палове мая і ні ў якім разе не пазьней першай паловы ліпеня.

Вішні і сьлівы карысна яшчэ ўгнойваць гашанай вапнай, мелам, уводзячы яго ў глебу прыкамельных кругоў. Угнойваць гэтым трэба тады, калі дрэвы адцьвітуць. Гнаёвую жыжку пад вішні і сьлівы трэба падліваць у тойжа час, як і пад яблыні.

Садавод.

# Будзем добрымі майстрамі.

*(Нарыс аб рабоце групы акцябрат).*



— Таварышы! Я хачу супроць Тамары, каб яна не здавала ўрачыстага абяцаньня. Яна Матруне ручку ад дзьвярэй адламала і сварылася з Матрунай.

Так выказваецца супроць сваёй сястры, Тамары, маленькі акцябронак Кім.

А меншы брат, Спартак, узьлезшы на крэсла і прыняўшы выгляд прамоўцы, гнеўна дадае:

— Яна супу ня хоча есьці!..

— Затое яна кожны дзень вушы мые і ведае законы і звычкі акцябрат. Яна з усімі сябруе і ўсім дзеліцца... і... яна добрая акцябрына, няхай урачыстае абяцаньне здае!—дадае трэці акцябронак.

Сёньня ў атрадзе абгаварваецца пытаньне аб тым, каго з дзяцей-навічкоў перадаць у акцябраты. Усе акцябраты з вялікай цікавасьцю сьпяшаюцца выказаць свае думкі аб кожным з тых, каго перадаюць. Тут яны правяраюць свае веды аб законах і звычаях юных акцябрат, тут яны самі адзначаюць свае дрэнныя паводзіны і стараюцца іх выпраўляць.

* * *

Нядзеля. Сёньня ўва ўсіх сьвяточны настрой. Акцябраты зьбіраюцца ў госьці да чырвонаармейцаў. Яны праз кожную хвіліну выбягаюць на вуліцу паглядзець, ці ня едзе чырвонаармеец па іх. І нарэшце—коні ля варотаў. Чырвонаармеец запрашае садзіцца, укручвае малых коўдрай, і коні бораздa імчаць сані, напоўненыя акцябратамі, у чырвоную казарму.

У казарме сьветла, добра, у кадушках растуць дрэўцы, іграе гармонік, сьпяваюць. Але гэта ня так цікава, а галоўнае вось: усім акцябратам далі вінтоўкі! Нічога, што ня было патронаў,—для маленьніх акцябрат лясканьне пустых затвораў здавалася грукатам кулямётаў...

У поўнай ваеннай зброі—з шашкамі на плячох, у працівагазах, горда маршыруюць акцябраты па казарме. Пацікавіліся кулямётамі, танкамі на плякатах, а потым пабылі на канюшні. Вясёлых і задаволеных адвозілі чырвонаармейцы акцябрат назад. У чырвонаармейскай кнізе ўражаньняў пакінулі наступныя радкі:

„Сёньня мы на чырвонаармейскіх конях езьдзілі ў госьці да таварышоў чырвонаармейцаў. Тут нам вельмі спадабалася. Але больш за ўсё нам спадабаўся конь Зуб. Многа акцябрат прасілася ў чырвонаармейцаў, каб застацца ў іх разам жыць.

*Актябраты пры яч. БДВ“.*

* * *

— Алло! Алло! Гаворыць Менск!.. Добры дзень, акцябраткі!..

— Ой, што гэта?.. Там дзядзя сядзіць і гаворыць?..

Утаропіўшы зьдзіўленыя вочкі на гучнагаварыцель, пытаецца маленькі акцябронак Рува, які сёньня ўпяршыню прышоў паслухаць радыё-перадачу для акцябрат.



*„Яна супу ня хоча есьці“..*

— Не, дзядзька гаворыць з радыё-станцыі, а адтуль, пры дапамозе прыладаў, праз паветра, гукі даходзяць да нас,—тлумачыць старэйшы акцябронак.

— У яго, мусіць, здаровы голас, што так далёка чуваць?!.

Але хутка размовы канчаюцца і акцябраты з захапленьнем слухаюць музыку.

А вось засьпяваў хор акцябрат. Знаёмыя, такія звычайныя, зусім блізка раздаюцца дзіцячыя галасы. Гэта акцябратам асабліва спадабалася. Яны рытмічна пастукваюць, ківаюць у тахт галовамі, падпяваюць.

— А ведаеце што, акцябраткі,—гаворыць кіраўнік атраду,—нас просяць, каб мы таксама з сваім хорам выступілі на радыёстанцыі.

Ад радасьці яны спачатку ня ведаюць, што адказаць, але потым пачынаюць скакаць па пакоі, пляскаць у ладкі...

### Дзе патрэбна праца, мы заўсёды там.

Цэлых два дні ішоў сьнег. Вялікія гурбы яго ляжаць на вуліцах. Быццам белымі шапачкамі, упрыгожаны сьнегам стрэхі будынкаў. Сады, быццам мярэжай, убраны тым-жа сьнегам.

Дзякуючы завеі, акцябраты спазьніліся на сход, і, сабраўшыся, парашылі сёньня заняцца грамадзка-карыснай працай.

На двары ўсё завалена сьнегам, няма як прайсьці, і акцябраты выходзяць расчысьціць двор ад сьнегу...

Жыва хапаюць рыдлёўкі, мётлы, дастаюць у дворніка санкі, скрынку і шчыра бяруцца за працу.

Скончыўшы працу, акцябраты горда аглядаюць расчышчаны двор і бягуць у памяшканьне, дзе пасьля працы хочацца пасядзець, паслухаць апавяданьні, казкі...

## Акцябраты ня вераць у забабоны.

... Прачыталі байку Крапівы „Жаба ў каляіне“... Хвіліны дзьве маўкліва сядзелі, абдумваючы. Потым пачынаюць.

— Маня, а праўда, Аўгіньня гаворыць, што калі жабу раздушыць, дык дождж пойдзе?..

— Ай, што ён гаворыць? Зусім ня праўда... я можа трыццаць жабаў раздушыў і было такое сонца!..—Як пажылы мужчына, махнуўшы рукою, не згаджаецца з гэтым довадам маленькі акцябронак Муля...

— Ну, а хто ведае, ад чаго ідзе дождж?



*А-а-дда-ай!*

Тут павадыр расказвае акцябратам, ад чаго ідзе дождж, і праз 5 хвілін слухачы ўпэўніваюцца ў тым, што жаба тут ні пры чым, і што апавяданьні аб даждж ы, зьвязаным з забойствам жабы—гэта проста бабскія забабоны.

Пасьля гэтага распачынаюцца гарачыя спрэчкі аб катох, сабаках, парасятах і інш. жывёле. Колькі апавяданьняў, і якіх цікавых, расказваюць акцябраты з сваіх уласных нагляданьняў.

## Наш атрад тым мацней, чым работа ў ім дружней.

Так займаюцца акцябраты на сходах. Але, акрамя таго, яны яшчэ займаюцца і на зорачках (на акцябрацкіх зьвеньнях). На занятках зорачак акцябраты сьпяваюць, працуюць, чытаюць, займаюцца фізкультурай. Але больш за ўсё любяць акцябраты майстраваць.

Дзяжурны раздае ўсім інструманты і матар'ял, і кожны бярэцца за сваю любімую працу.

Вось дзьве дзяўчынкі старанна вышываюць на чырвоным палатне лёзунг, другая дзяўчынка шые сукеначку...

Але раптам цішыня парушаецца:

— А-а-дда-а-й!..—нема крычыць пузаценькі Абраша і з ўсёй сілы цягне пілу з рук другога акцябронка.

— Я першы ўзяў, ма-а-а-я!..—крычыць другі акцябронак. Раптам адзін з іх перацягвае пілку да сябе і абодва ляцяць на падлогу, задраўшы ногі дагары. Хутка яны ўстаюць і зноў пачынаюць тузацца, але, ня здолеўшы адзін другога, яны паварочваюць галовы да павадыра, чакаючы, каму той прысудзіць пілку.

— А ну, паглядзеце, дзеткі, якія „добрыя“ акцябраты—Абраша і Моня; бачыце як, яны дзеляцца адзін з другім... Акцябронак павінен быць такім?

— Не-е-е!..—дружна гучыць у адказ. І ў той-жа час пілка ўжо ляжыць на падлозе. Абодвы задзіракі прапануюць пілку адзін другому... Увесь астатні час акцябраты вельмі ахвотна прапануюць адзін аднаму інструманты, раяцца адзін з другім і ўсялякія справы стараюцца абгаварваць усім колектывам.



*„Слухай маю каманду!“*



*Акцябраты шчыра бяруцца за працу.*

Акцябраты ня толькі самі працуюць, яны вельмі любяць памагаць у працы старэйшых. Калі ячэйка організавала жаночы сход, акцябраты наладзілі дзіцячы пакой. Прынесьлі свае гульні, кніжкі. Бацькі астаўлялі сваіх дзяцей у дзіцячым пакоі, а акцябраты з імі забаўляліся: гулялі, чыталі апавяданьні, расказвалі...

Потым, на тым-жа вечары, акцябраты выступалі з сваім хорам, танцавалі і дэклямавалі.

А ў нядзелю ў атрад прышло чацьвёра новых дзяцей, з тых, якія былі ў дзіцячым пакоі.

**Іра Александровіч.**

---

## ПАВУК-КРЫЖАВІК.

*Я павук-крыжавік,*
*Павуціньне сную,*
*І пра боскую моц*
*Сваю песьню пяю.*

*Зазваню у званы,*
*Адурманю народ—*
*Хай нясуць медзякі*
*На мой тлусты жывот.*

*Вось бабулькі ідуць*
*На маленьне ка мне,*
*Нібы мухі паўзуць*
*У павуцьцё на сьцяне.*

*Толькі боязны мне*
*Піонэраў паход,—*
*Можа высахнуць мой*
*Трохпудовы жывот.*

*Піонэрскі фарпост*
*Утварае гурткі*
*Супроць бога майго,*
*Усёй маёй чапухі.*

*Піонэры багом*
*Падбіваюць гузы.*
*Прападаюць мае*
*Казырныя тузы.*

**Бязбожнік.**

# ЗЬВЯРЫНЫ БАЛЬ.

*Байка ШУШКЕВІЧА.*

*Мал. П. ГУТКОЎСКАГА*



Загудзела, зашумела
У бары.
Таўкуць кашу, таўкуць кашу
Камары.

А лісічка каля куста
Скубе гусь,
Ажно пер'йка у лапках—
Хрусь ды хрусь!

А пад дубам воўк бяззубы,
Быццам вол,
Двух баранчыкаў патрошыць
На расол.

А мядзьведзь начоўкі мёду
Валачэ,
Аж па лапах мёд салодзенькі
Цячэ.

Будзе ў лесе, будзе ў лесе
Нейкі госьць!
Зацікавіўся аж гэтым
Шэры лось.

За бярозкаю зялёнай
Ціха стаў
І ў лісічкі ён нясьмела
Запытаў:

— Што тут будзе, што тут будзе
Раскажы?!
І ад дзіва ён, нясьмелы,
Аж дрыжыць.

Але ліску-гаспадыньку
Узяў гнеў:
— Што—ня знаеш? што—ня чуў ты?—
Прыйдзе леў!

І разьнёс па лесе чуткі
Шэры лось,
Што прыедзе самы лепшы
Да іх госьць.

Засьцілае шэры зайка
Абрусы
І глядзіць, каб было месца
Тут усім.

Засьцілае шэры зайка
Белы стол,
Воўк нясе ў вялікіх місках
Свой расол.

А лісічка-гаспадынька
Ставіць гусь,
А мядзьведзь тут дзежку мёду
На стол—шусь!

— Вось дык будзе, вось дык будзе
Важны госьць!
Заяўляе па ўсім лесе
Шэры лось.

І сабралася-ж у лесе
Зьвяроў шмат,
Ўсе стаяць, чакаюць госьця
Тут у рад.

І грукочуць раптам колы,
Быццам гром,
І трамчаць у лесе страшна
Пні і лом.

Едзе, едзе на мядзьведзях
Грозны леў!
Шэры зайка наш ад страху
Тут самлеў.

Прывітаўся леў з усімі,
Сеў за стол
І узяўся дружна з лыжкай
За расол.

Есьць, гаворыць і сьмяецца,
Ўсяму рад.
А камарыкі сыпнулі,
Быццам град.

Прыцягнулі яны кашы
Місак з пяць
І пачалі льву вясёла
Падпяваць.

І адкуль, скажэце, ўзяўся
Жоўты чмель,—
Прыляцеў ды льву усеўся
На каўнер.

Закіпела ў льва на сэрцы
Раптам злосьць,
Што няпрошаным прыехаў
Чмелік-госьць.



*(працяг на наступ. ст.).*




## Міраж у пустыні.

Цікавы абман зроку здараецца з падарожнікам у пустынях. Гэта—*марава*, ці *міраж*. Вось як апісвае адзін падарожнік міраж у пустыні.

„Раніцай і ўвечары зямля мае звычайны выгляд. Паміж вамі і бліжэйшымі будынкамі вы бачыце толькі зямлю. Але з таго часу, як зямля добра нагрэецца сонцам, і да самага вечару зямля здалёк ад вас быццам заліваецца вадою. Будовы здаюцца выспамі пасярод вялізарнага возера. Пад будовамі відаць іх перавернуты, некалькі туманны адбітак, як быццам у вадзе. Калі вы падыходзіце да будынкаў бліжэй, дык бераг зданьнёвай рэчкі адыходзіць назад; возера становіцца вузейшым і, нарэшце, прападае зусім. Але гэта-ж паўтараецца і з новымі будынкамі, якія знаходзяцца далей“.

Гэта зданьнёвая вада—абман зроку: нагрэтае паветра над гарачым пяском пустыні адкідае праменьні сьвету накштал люстра, і праз гэта здаецца, што зямля здалёк заліта вадою, у якой і відаць адбіткі розных рэчаў.



## Ланцужок з складоў.

Дадаць патрэбныя літары, каб можна было прачытаць сем слоў.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ку | | ра | | на | | рун |

## Прачытайце лёзунг.

Пара, шына, зграй, на, шула, час, копі, ясь.

Закрэсьліце у гэтых словах лішнія літары, каб можна было прачытаць лёзунг, які павінен выконваць кожны піонэр і вучань—чытач часопісі.

---

Калі крыкне, калі крыкне
Ён на ўсіх,
Дык аж чмелік жоўтакрылы
З страху сьціх.

— Ах, лавеце, ах, лавеце
Вы яго!
Выкідайце за пачэсны
Наш парог!

А той чмелік ды ад злосьці
Уздрыгнуў...
Сваім жалам, быццам восьцю,
Льва кальнуў...



Распасьцёршы ціха крыльлі,
Паляцеў...
І зароў ад моцнай болі
Шэры леў.

Пачалі чмяля зьвяры ўсе
Даганяць.
Паляцела з крыкам-гікам
Ўся гайня.

Леў зьнянацку калі даўся
Лбом у дуб...
Дык зьвяры паднялі толькі
Ў крыві труп.

Чмелік ціха па-над лесам
Паляцеў.
І вярнуўся тут з пагоні
Кожны зьвер.

І шуміць у лесе ціха
Волат-дуб,
А пад ім ляжыць халодны
Львіны труп.

І зьбіраюцца панура
Ўсе зьвяры
Пахаваці льва пад дубам,
Ля гары.

Плача ліска, плача зайка,
Нават воўк.
Вось і ўся вам, дзеці, байка
Пра зьвяроў.

## АДКАЗЫ НА ЗАДАЧЫ.

*Зьмешчаныя ў № 2—7 за 1929 г.*

**№ 2 „Б. П.“ Задача № 1.**—У кожнай частцы будзе марак на 19 кап. Разразаць трэба так. Зьлева зьверху квадрата, трэба адрысаваць: у першым радку (зьлева направа) тры лічбіны (клетачкі), у другім радку—першыя чатыры, у трэцім—першую і трэцюю лічбіну. У гэтых адрысаваных клетачках і будзе зьмяшчацца марак на 19 к. Такую-ж самую частку і такім парадкам адрысуйце і ў правым кутку зьнізу.

**Рэбус.**—Больш **„слухай“**, менш **„гавары“**.

**Ланцужок з складоў:**—лапа, павер, верба, баба, вага, газа.

**Што ў вас перад вачыма?**—Задача, падумай (гэтыя словы пішуцца ў падоўжных слупкох, тады атрымаеш тры словы (зьлева направа): ганак, Гарун, склад).

**Каторае вядро перацягне.**—Ніводнае.

**Задачка-жарт.** — Над „му“ (палова мухі) палажыць „рак“ і будзем мець пад-му-рак.

**№ 3 „Б. П.“—Задача № 1.**—Ноль разрэзаць уздоўж папалам і з гэтых частак можна злажыць рымскую лічбіну **X**; потым дадаць да гэтай лічбіны адзінку і будзе **XI**.

**Задача № 2.** Адказ такі: Я. Колас (зьверху), Лёсік (зьлева); словы будуць такія: лейцы, ёлка, сон, КІМ.

**Задача № 3.** У задачы ёсьць памылка; замест 15 трэба паставіць 12, тады адказ такі: 6, 21, 18 (першы радок), 27, 15, 3 (другі), 12, 9, 24—трэці радок.

**Манограма.** — Голад, холад, волат молат.

**Рэбус.**—Загляне сонца і ў наша ва конца.

373

# Вожык

ГУМАРЫСТЫЧНАЯ
ГАЗЭТА
ПІОНЭРАЎ
№ 8

## *Бываюць і такія атрады.*

*Мокра, браточкі. Вясна значыцца. Ідзеш, ідзеш, аж ногі забаляць. Так і сёньня. Іду я мокраю дарогаю проста да вёскі, паглядзець, як атрад працуе. Мінуў царкву. Хутка і вёска. А ногі так баляць. Дай, думаю, адпачну каля гэтага каменя. Сеў і адпачываю. А вёска так блізка, што відаць дом з шыльдаю, самы высокі, школа, мусіць. Сяджу... А потым... Гэта-ж вунь з вёскі ідзе цэлая гурба хлопцаў і дзяўчат. Піонэры, гальштукі відаць чырвоныя. Пэўна, мяне ідуць сустракаць. Добра працуюць, мусіць, у гэтым атрадзе! Я схаваўся за камень, каб потым парадаваць іх нечаканай сустрэчай.*

*Падышлі.*

*— Ура! Ура!—крычу я, выскачыўшы з-за каменя.*

*Усе так і аслупянелі. Спужаліся.*

*Потым чую шэпчуцца:*

*„Гэта-ж, мусіць, Вожык?! Будзе нам!.. І—ходу. Потым я чуў:*

*— Вось я толькі паспавядаюся і зараз-жа на сход атраду пайду.*

*— І я... І я...*

*І сумна мне стала, што нарваўся на такіх піонэраў, якія ходзяць спавядацца.*

*Прышоў я ў клюб, застаў там толькі аднаго павадыра. Ен быў нейкі сумны. Холадна прывітаўся і сказаў:*

*— Каб яны захлынуліся, гэтыя піонэры... Трэба змагацца...*

*Бываюць такія атрады. Ячэйкі ЛКСМБ, азірнецеся: мо' і вашы атрады гэтакія самыя?*

## *Актыўныя сварацца.*

*Н.-Барысаўская 8-я школа—актыў!*

*Дай, думаю, пагляджу сягота́га ў гэтай школе.*

*І што вы думаеце? Толькі я прышоў, як чую крычаць:*

*— Дурань!*

*— Крывуля.*

*— Піпка!*

*— Шалапай!*

*„Што тут робіцца?"—Я гэта цішком у калідор. І дзіва: вучні грызуцца між сабой. Я прытуліўся ля сьцяны і дрыжу. Ня рад, што папаў сюды: гатоў хто па патыліцы шлопнуць. Гляджу, дык тут і фарпост і вучком—сьмяюцца, плешчуць у ладкі таму, хто „мудрэйшае" слоўца скажа.*

*Прападзеце, думаю, вы з сваёю актыўнасьцю.*

## *Паднумараваць „заўтры".*

*Пра Лістападаўцаў я пісаў ужо. Але і цяпер не абмінеш іх моўчкі. Гэта-ж, бок, нядаўна ячэйка дала атраду новага павадыра.*

*— Будзем працаваць!—крыкнуў павадыр піонэрам:—заўтра сход атраду.*

*А піонэры і радуюцца. Гэта ж тры месяцы як ня было сходу! Добра, што хоць дачакаліся.*

*Прыходзяць назаўтра ў школу. Чакаюць, чакаюць, а павадыра няма. Піонэры да яго ў хату. А ён сабе ляжыць на ложку, курыць і плюе ў столь. Яны да яго:*

*— Ты нам учора сказаў так: Заўтра будзе сход!*

*— Ну дык заўтра, я-ж так і сказаў, што заўтра.*




*— Пакрытыкуй толькі — дык во!*

*А назаўтра—тое-ж самае.*

*Калі-ж і прыдзе, то знойдзе прычыну, каб уцячы са сходу. То мала піонэраў сабралася, то да яго старшыня Райбюро абяцаўся прыехаць сёньня і г. д.*

*Я раю паднумараваць „заўтры". Тады ўжо не „аднекнецца". А ячэйцы трэба ушчунуць яго за такую працу.*

## *Паштовая скрынка.*

*Алло! Слухай, М. Даніловіч: верш „Юнак" ня пойдзе. Ты хвалішся, што быў піонэрам 2-га Узьдзенскага атраду. Цяпер камсамолец, і нават вучань 5-ай клясы Магільнянскай сямігодкі. А чаму ты ня ўмееш чытаць друкаванага? Замест прозьвішча: К. Шавель, ты падпісаўся: М. Даніловіч Арсеяў. Калі сьпісваеш, то хаця добра, уважліва прыглядайся да прозьвішча аўтара. Пішы больш! Сьпісвай, браток.*

## *Пададуць заяву.*

*Прысьвячаю Кухцінскаму атраду, што на Узьдзенскім раёне.*

*Піонэр Васіль бяжыць*
*Вузкай вуліцай,*
*А сабака аж дрыжыць,*
*К плоту туліцца.*
*Прытуліўся да паркану*
*І ня гаўкае.*
*У Янкі жорсткая рука,*
*Нават палка ёсьць.*
*Ён сабакаў і катоў*
*Страх ня любіць як.*
*Усіх парэзаць іх гатоў!*
*Жорстка судзіць так.*
*Вось прабег Васіль якраз—*
*Абармоціна.*
*І сабака ў той-жа час—*
*За вароцейкі.*
*Рады, што застаўся так*
*Няпрыкмечаны.*
*А то быў-бы ён, бядак,*
*Пакалечаны.*
*І сабака надта рад,*
*Круціць хвосьцікам...*
*„Трэ' заяву у атрад*
*Пісаць ўсё-ж такі.*
*Трэба, трэба напісаць,*
*Мо' пакаецца.*
*І ня будзе нас лупіць,*
*Як спаткаецца.*

Рэдколегія: Баліцкі А., Буклей В., Маур Я., Пякарчык А., Якімовіч А.

Адказны рэдактар А. Пякарчык.